Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 6 (60) Серада, 4-га Лютага 1925 г. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## Патрэба самадзейнасьці.

Ня кожнаму можа зразумела, што ў Рэспубліцы кожны грамадзянін побач з абавязкамі, якія накладае на кожнага сябра Рэспублікі дзяржава, мае вялікія правы, якімі ён можа карыстацца, дамагаючыся іх зусім легальнаю дарогаю.

Палітычнае палажэньне нашае— беларускае—пад Польшчаю зьмянілася моцна ў параўнаньні з тым, што было пад пятою расейскага царызму. У той час, як у бышай Расеі самы нявінны наш культурна-нацыянальны рух лічыўся „крамолаю“, цяпер рух гэты мае вялізарнае палітычнае значэньне. Тады, як у расейскія часы аб беларускай школе, напрыклад, нам нельга было і заікнуцца, дзеля таго, што царская ўлада лічыла беларусаў проста „русскими“, не раўнуючы, як і самых шчырых велікарусаў з Маскоўскае ці Яраслаўскае губэрні, цяпер беларуская родная школа загарантавана нам, як аснаўнымі законамі Польскае Рэспублікі, так і спэцыяльным законам, хаця й ня зусім дасканальным, не абняўшым сабою ўсяго гэтага няпростага пытаньня.

Даўней тут у Заходняй Беларусі царызм баяўся завясьці навет гэтак званыя „цэнзавыя“ ці папростаму абшарніцкія земствы, а Польская Конституцыя прадбачыць шырокі самаўрад, у якім, у сілу роўнасьці грамадзян перад правам, народ мае мець свой голас па мясцовых справах.

Параўнаньняў гэткіх можна прывясьці цэлую гару, але найважнейшым будзе адно аснаўное параўнаньне:

У дэспотычнай расейскай монархіі грамадзянскія правы былі вузенькімі—аб тым, што патрэбна грамадзяніну клапацілася царская ўлада, яна-ж рэалізавала і яго куртатыя правы. Дый грамадзянамі тады нас гэтая ўлада ня лічыла, бо існавалі толькі царскія паддавыя.

А ў Рэспубліцы цяпер аб сваіх правох і патрэбах павінны мы самі, як грамадзяне яе, клапаціцца бо ніхто нашыя справы за нас рабіць не абавязаны.

Вось дзеля гэтага мала галасіць на ўвесь сьвет, што нам патрэбна свая школа — трэба гэтую школу будаваць, мала крычаць аб усіх сваіх балячках—іх трэба лячыць.

Бракуе, напрыклад, школьных падручнікаў для тых школаў сваіх, якіх мы гэтак жадаем—трэба рабіць гэтыя падручнікі, дзеля таго, што даўней яны вучням даваліся ў народных школах дарма, а цяпер іх трэба набываць сваім коштам.

Кожны беларускі культурны працаўнік, кожны хто знае сваю мову добра і шмат папрацаваў, напрыклад, у ролі настаўніка можа і павінен старацца працаваць над тварэньнем школьных падручнікаў. На першы час можна ўдацца да спосабу перакладаньня лепшых школьных падручнікаў з іншых моваў. А калі пачнуць адчыняцца нашыя родныя школы, дык выдаць падручнікі заўсёды аматары знайдуцца, выдасьць іх кожны прыватны выдавец, бо на гэткім выданьні ён можа толькі зарабіць.

Цяпер новая для нас справа складаньня бацькамі асабістых дэкляарацыяў школьным інспэктаром аб патрэбе роднае школы. І вось кожны добра пісьменны беларус у вёсцы павінен памагчы сваім менеш пісьменным або й зусім няпісьменным дзядзьком ды цёткам гэтую фармальнасьць выпаўніць, каб даць беларускім дзеткам магчымасьць вучыцца ў найлягчэйшай для іх сваёй роднай, бо матчынай мове, якою пагарджалі царскія враднікі ў час нашай няволі, а іхняга панаваньня, якую лічылі мужыцкаю. А цяпер яна ўжо ня мужыцкая, бо ў радох беларускае інтэлігэнцыі, якая ад свайго народу не адарвецца ніколі, ёсьць шмат людзей з вышэйшай навет адукацыяй, што ня стыдаюцца сваею роднаю моваю гаварыць. Народ вяртае ў сваю масу усіх сыноў сваіх, якія з яго павыходзілі, як кажуць, у сьвет, і складае з імі адну нацыянальную цэласьць, якая штодзень, дык упарта мацнее.

Нельга нам чакаць і спадзявацца, што нехта падаўнейшаму прыдзе, возьме нас за карак ды пацягне рабіць нашу нацыянальную ці грамадзкую справу, бо ніхто гэтага рабіць ня будзе. Трэба высоўваць свае творчыя сілы наперад і, па меры магчымасьцяў, каваць нашу сьветлую будучыну, якая ніколі ня зваліцца да нас з неба, быццам біблейская манна.

На падставе законаў, якія датычаць нашага нацыянальнага права, можна шмат чаго зрабіць, але памятаць усім нам трэба, што рэалізацыя пазволенага законам у найбольшай меры залежыць і ад нас саміх.

Мы павінны йсьці шляхам законнае самадзейнасьці да ўсіх нашых жыцьцёвых мэтаў, якія становяцца на парадак дня і калі мы навучымся рабіць гэта сьмела і дружна, арганізованна, дык усё пайдзе да лепшага.

І гэтая патрэба грамадзкае самадзейнасьці нашай асабліва насьпела цяпер, калі Польскі Урад скрануў з мёртвага пункту справу нашага школьніцтва, справу адбудовы зруйнованых вайною гаспадарак, калі кратае з месца справу можа самую цікавую для нашага сялянства—зямельную рэформу.

## Палітычны агляд.

Найбольшаю сэнсацыяй апошніх дзён зьяўляецца вестка аб падпісаньні савецка-японскага дагавору. Гэты дыплёматычны акт першаразраднае вагі сур'ёзна стрывожыў гэткія дзяржавы, як Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты, Вялікабрытанія і Францыя. Усе газэты ўсіх краёў разважаюць над гэтым фактам усебакова, лічачы яго пачаткам новае сусьветнае эпохі.

У чым-жа крыецца сусьветнае значэньне гэтай падзеі?

Дасюль, як вядома, СССР., які зьяўляецца па сваіму тэрыторыяльнаму палажэньню напалову эўропэйскаю і напалову азіяцкаю дзяржаваю, быў ізаляваны і часткаю байкатованы вялікімі дзяржавамі, калі ня лічыць болей прыязных яго адносін з Нямеччынай, якая ў канцы мінулага году таксама значна пахаладзела пасьля бэрлінскага інцыдэнту з савецкаю гандлёваю дэлегацыяю. І толькі ў пачатку леташняга году радавы ўрад быў прызнаны Англіяй, а ў канцы і Францыяй. Але-ж ні Амэрыка ні Японія, маючая вялізны ўплыў на сусьветную палітыку, не паказвала асаблівага нахілу ў бок прызнаньня радавага ураду, не глядзячы на ўсе яго стараньні ў гэтым кірунку. У першы час, пасьля прызнаньня бальшавікоў ангельскім урадам Макдональда, ў Амэрыцы і Японіі крыху занепакоіліся, каб Англія ня выкарыстала ў СССР свайго вынятковага палажэньня на шкоду рэшце дзяржаваў. Але пасьля адходу ад улады Макдональда і адмовы ангельскага парлямэнту ад ратыфікацыі англа-савецкага дагавору ў Вашынгтоне і Токіо супакоіліся. Пад гэты час адносіны паміж Англіяй і Францыяй з аднаго боку і СССР з другога настолькі зьмяніліся й пагоршыліся, што навет паднята пытаньне аб стварэньні агульнаэўропэйскага процібальшавіцкага фронту з выключэньнем з яго, пэўна-ж, Нямеччыны. Ніхто ня мог быць няпэўным, што Амэрыка і Японія таксама будзе на старане Францыі і Англіі, таму што бяз удзелу гэтых дзьвёх сусьветных дзяржаваў нельга разьлічаць на ўдачу якога нібудзь буйнога прадпрыемства. І якраз у гэты рашучы момэнт сусьветнай палітыкі прыходзіць вестка аб гым, што падаўся ў адстаўку амэрыканскі статс-сэкрэтар па заграгранічных справах Юз, што азначала паварот у амэрыканскай палітыцы датычна саветаў, і аб заключэньні савецка-японскага паразуменьня.

У загранічнай палітыцы СССР з самага пачатку бароліся два кірункі: адзін на чале з Троцкім ішоў да выкліку рэвалюцыі ў Эўропе і другі на чале з Зіноўевым ішоў да захапленьня сваімі ўплывамі Азіі. І першы, праглынуўшы масу коштаў і энэргіі, нарэшце, панёс паражэньне, разам з якім зыйшоў з палітычнае сцэны і Троцкі, тымчасам як другі адтрымаў перамогу, што яшчэ больш умацоўвае пазыцыю ўсяўладнага цяпер, бяздарнага Зіноўева. Першы напор бальшавікоў быў скірованы процi Кітаю, Сярэдняй Азіі і Блізкага Усходу, дзе апрача Пэрсіі бальшавікі вялікае ўдачы ня мелі. Гэтак

сама няўдачнымі былі ўсе атакі бальшавікоў і проці Індыі, пакуль на чале індускіх нацыяналістых стаяў Ганді. Толькі ў апошні час віды бальшавікоў на ўдачу ў Індыі крыху палепшыліся ў зьвязку з перамогаю левага кірунку індускіх нацыяналістых. Але найбольшую перамогу ў сярэдзіне і ў канцы леташняга году бальшавікі адтрымалі ў Кітаі. Спачатку пад пагрозаю штыхоў ім удалося прымусіць Кітай прызнаць радавы ўрад і падпісаць кітайска-савецкі дагавор, паводле якога перадана была ў распараджэньне бальшавікоў усходня-кітайская чугунка ў Манджурыі, збудованая на міжнародны капітал. А затым бальшавіком удалося выклікаць у Кітаі хатнюю вайну, якае йдзе пад лёзунгам вызваленьня Кітая з-пад чужаземнай залежнасьці. Роля СССР у кітайскай хатняй вайне зусім ясная. Бальшавікі, хочучы памсьціцца над Амэрыкай, Англіяй і Францыяй за іхнюю ўпартасьць у прызнаньні імі пазыкаў, хочуць зрабіць ім удар у Азіі. Староньнікі бальшавікоў у Кітаі вядуць вайну пад лёзунгам «Азія для азіятаў», г. знач. за поўнае выгнаньне эўропэйцаў і амэрыканцаў з Кітая і наагул з Азіі. Але ня зусім яснаю была пазыцыя ў кітайскай хатняй вайне Японіі, як азіяцкае дзяржавы. Яна вяла сваю палітыку ў гэтым пытаньні надта асьцярожна, хаця й відаць было, што Японія болей схіляецца да палітыкі СССР і разам з тым умацоўвае сваё палажэньне ў Манджурыі. І толькі ў апошні час яна зьняла са свайго твару маску, падпісаўшы паразуменьне з бальшавікамі і адкрыта выступіўшы на старане СССР і Кітая. Перагаворы радавага ўраду з Японіяй вяліся каля трох гадоў, але ўсё няўдачна. Быў час, што адносіны паміж Японіяй і бальшавікамі набіралі вельмі сур'ёзнага характару, як напрыкл., пасьля бальшавіцкае разаніны японцаў у Нова-Нікалаеўску пасьля паражэньня белых войскаў, падтрымліваных Японіяй і захапленьня Уладывастоку. Найбольшаю труднасьцю ў перагаворах было нежаданьне Японіі ачысьціць паўночную часьць Сахаліну, захопленую ею самавольна, ў якой ёсьць багатыя запасы нэфты і каменнага вугля. Але апошняй акалічнасьцю, памогшай паразуменьню Японіі з СССР, быў іміграцыйны амэрыканскі закон, пазбаўляючы Японію эміграцыі ў Амэрыку, Для Японіі з 70 мільённым насяленьнем пры яе малой тэрыторыі, пытаньне аб эміграцыі зьяўляецца пытаньнем жыцьця і сьмерці. І на гэтым грунце, як вядома, паўсталі буйныя непаразуменьні паміж Японіяй і Амэрыкай. Гэтымі супярэчнасьцямі паміж двама галоўнымі конкурэнтамі на Вялікім акіяне і Далёкім Усходзе спрытна скарысталіся бальшавікі, запрапанаваўшы Японіі падзяліць паміж сабою сфэру ўплываў у Усх. Азіі і выгнаць адтуль амэрыканцаў, ангельцаў, французаў і італьянцаў. Савецка-японскі дагавор прасьледуе выразную мэту вынятковага савецка-японскага панаваньня ў Кітаі, маючым у апошні час вялізнае значэньне для Эўропы і Амэрыкі, ак рынак збыту. Уся эўропэйская і амэрыканская прэса ацэньвае факт савецка-японскага паразуменьня, як пачатак саюзу гэтых дзяржаваў, які ў хуткім часе будзе пашыраны і на Кітай. У японскім парлямэнце старшыня галоўных палітычных партыяў ужо выступіў за стварэньне трайнога савецка-японa-кітайскага саюзу, да якога ў хуткім часе можа прылучыцца і Нямеччына, маючая надта моцны ўплыў у Кітаі і выгнанная адтуль пасьля вайны.

Цяпер нятрудна зразумець значэньне й мэту гэтага саюзу. Першае, савецка-японa-кітайскі саюз, які можна лічыць стаўшымся фактам, бярэ пад савецка-японскі палітычны і эканамічны ўплыў блізу што ўсю Азію з яе 900 мільённым насяленьнем, таму што, узяўшы ў сваю сфэру Кітай, бальшавікі і японцы павядуць концэнтрычныя атакі проці Інда-Кітая, Індостану, Афганістану і Пэрсіі. Гэтым наносіцца сьмяротны эканамічны ўдар Амэрыцы і Англіі, для якіх Азія зьяўляецца цяпер галоўным рынкам збыту гатовых фабрыкатаў узамен за пастаўку сыр'я. Але апрача эканамічнага гэты саюз мае яшчэ большае палітычнае значэньне. Па стварэньні савецка-японa-кітайскага саюзу, да якога напэўна прылучыцца й Нямеччына, цяперашняя саюзьніца СССР, цэнтр цяжару палітычнае роўнавагі пераносіцца з захаду на ўсход. Японія адмовіцца ад актыўнае палітычнае ролі ў Эўропе. І сусьветныя палітычныя сілы падзеляцца на дзьве часьці: з аднаго боку Амэрыка, Англія, Францыя, Італія і некаторыя іншыя дробныя дзяржавы, а з другога — Японія, Кітай, СССР і Нямеччына. СССР значна ўмацоўвае свой тыл у выпадку дзеяў проці Эўропы, які дасюль быў адкрыты. Гэта ўжо відаць па радавай палітыцы. Бальшавікі адразу пасьля гэтага пачалі адкрыта рыхтаваць выступленьне проці Румыніі з мэтаю адабраць назад Бэсарабію, якую ня ўсе вялікія дзяржавы прызналі за Румыніяй. Але гэта толькі пачатак тых нэйтральных пасьледзтваў, якія могуць здарыцца ў будучыні на грунце савецка-японскага паразуменьня.

*N.*

# Беларусы!

***Калі маеце дзяцей школьнага веку, дык памятайце, што да 31 сакавіка гэтага году вы павінны кожны ад сябе асобна падаць Павятоваму Школьнаму Інспэктару дэклярацыю аб жаданьні мець у вашым абводзе школу з беларускаю моваю, як выкладоваю!***

## УЗОР

дэклярацыі аб жаданьні роднае школы, якая павінна падавацца Школьнаму Павятоваму Інспэктару пасьля таго, як уласнаручны подпіс таго, хто падае дэклярацыю, будзе засьведчаны—ў валасьці, міравым судзьдзёю ці натарыюсам:

### ДЭКЛЯРАЦЫЯ.

*Я ніжэй падпісаны (ая)* ............................ *грамадзянін (ка)*
(імя і прозьвішча)
*Польскае Рэспублікі, беларускае нацыянальнасьці, жыхар (ка)* ............................
назоу мясцовасьці
*валасьці,* ............................ *павету* ............................, *як бацька — маці —*
(назоу валасьці) (назоу павету)
*праўны апякун дзіцяці — дзяцей — у школьным веку*

1. ............................ (імя дзіцяці) 3. ............................ (імя дзіцяці)
2. ............................ (імя дзіцяці) 4. ............................ (імя дзіцяці)

*на падставе артыкулу 3 Закону 31 ліпня 1924 г., што зьмяшчае некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва* („**Dz. Urz. R. P.**" *№ 79, poz. 766*) *жадаю ўвядзеньня ў істнуючую — маючую адкрыцца — публічную народную школу ў* ............................ (назоу мясцовасьці) *беларускае мовы, (як выкладовае).*

*Дн.* ............................ *192*... *г.* ............................
(уласнаручны подпіс)

**Да школьнага Інспэктара**
*ў* ............................
(назоу мясцовасьці)

УВАГА. У тэксьце дэклярацыі непатрэбныя словы зачыркнуць.

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, нікoлі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

**ГЭНРЫХ СЕНКЕВІЧ.**

# ЛЯТАРНІК.

(*Пераклад з польскага*).

*(Глядзі № 5 (59) „Грам. Голасу").*

Таксама часам, калі чайка, падвозіўшая яму харчы і ваду, прыбліжалася да вастраўка, сходзіў па ўсходах уніз, каб пагутарыць са стражнікам Джонсам. Пасьля аднак відаць зьдзічэў. Перастаў паказвацца ў горадзе, чытаць газэты і пушчацца ў палітычныя гутаркі з Джонсам. Міналі гэтак тыдні — і ніхто яго ня бачыў, ані ён нікога. Адзінай азнакай, што стары жыве яшчэ, было тое, што харчы, пакінутыя на беразе, зьнікалі, і сьвятло лятарні кожны вечар запальвалася з гэткай акуратнасьцяй, як сонца штодня выходзіла з вады. Відаць старому абрыдзеў сьвет. Прычынай гэтага ня была туга па бацькаўшчыне, але вось тое, што яна перайшла ўжо ў атупеньне. Увесь сьвет цяпер для старога пачынаўся і канчаўся на яго вастраўку. Зжыўся ўжо з гэтай думкай, што не пакіне маяка ажно да самай сьмерці і проста запомніў, што апрача гэтага ёсьць нешта на сьвеце. Апрача таго зрабіўся містыкам. Яго сінія спакойныя вочы зрабіліся, як вочы дзіцяці, глядзеўшыя вечна ў нейкую даль. У вечнай самоце, абкружаны простай і вялізнай прыродай, стары пачаў траціць пачуцьцё ўласнай абасобленасьці, пераставаў істнаваць як асоба, а ўсё балей зьліваўся з тым, што яго абкружала. Ня думаў ён аб гэтым, але толькі нявыразна адчуваў гэта, але ў канцы канцоў пачало яму здавацца, што неба, вада, яго скала, маяк і залатыя пясчаныя мелі, і выгнутыя парусы і чайкі, адлівы і прылівы — гэта нейкая вялікая адзінасьць і адзіная вялізная таёмная душа; а ён сам углыбляецца ў гэту таёмнасьць і адчувае гэтую душу. Патануў, укалыхаўся, забыўся — і ў гэтым абмежаваньні ўласнага асобнага істнаваньня, ў гэтай паўяве, паўсьне знайшоў гэткі вялікі спакой, што амаль падобны да паўсьмерці.

### III.

Але ён збудзіўся.

Адзін раз, калі чайка прывязла ваду і запасы стравы, Скавінскі, сайшоўшы гадзіну пазьней з маяка, заўважыў, што апрача звычайнага багажу ёсьць яшчэ нейкая пачка. На версе пачкі былі паштовыя маркі Злучаных Штатаў і выразны адрэс „Skawinski Esq." напісаны на таўстым парусным палатне. Зацікаўлены стары разрэзаў палатно і пабачыў кніжкі: ўзяў адну ў рукі, паглядзеў, палажыў назад, а ягоныя рукі пачалі моцна дрыжаць. Заплюшчыў вочы, быццам ня верачы, яму здавалася, што ён ува сьне — кніжка была польская. Што гэта значыла?! Хто мог яму прыслаць кніжку? У першую часіну відаць забыўся, што яшчэ ў пачатку свае кар'еры на маяку прачытаў адзін раз у пазычаным ад консуля «Herald», што заснавалася ў Нью-Іорку польскае таварыства і што ён зараз-жа паслаў гэтаму таварыству палову свае месячнае пэнсіі, з якой ня меў чаго рабіць на маяку. Таварыства ў падзяку прыслала яму кніжкі. Прыйшлі яны натуральнай дарогай, але ў першую часіну стары ня мог уцяміць гэтай думкі. Польскія кніжкі ў Аспайнвэль, на яго маяку, ў яго адзіноце, гэта было для яго нешта нязвычайнае, нейкі подых даўнішніх часаў, нейкі цуд. Цяпер яму здавалася, як тым матросам сярод ночы, што нешта кліча яго імя голасам надта дарагім, а амаль што зусім забытым. Прасядзеў часіну з заплюшчанымі вачыма і быў амаль пераконаны, што як расплюшчыць іх, сон зьнікне. Не! Разрэзаная пачка ляжала выразна перад ім, асьветленая бліскам папалудзеннага сонца, а на

пякарня, што выпякае ў тры штодзенныя выпечкі каля 400 кілёграмаў хлеба ў дзень. Цеста лёгка месіць электрычная машынка, вымешваючы сваімі стальнымі „рукамі“ адразу 80 кілёграмаў цеста. А які смачны, якнайлепшы хлеб вымаюць з дзьвюх вялізных печаў? Гэтак сама працуе: грамадзкая малатарня, грамадзкая малочная, кузьня і г. д.

Але-ж хто фінансаваў гэтыя капіталістычныя і, значыцца, „контр-рэвалюцыйныя“ інстытуцыі? Гэта таксама надта проста: самі мясцовыя сяляне. Яны арганізавалі крэдытнае таварыства, касу, якая прымае ўклады, плацячы за іх па 5% і выдае пазыкі, бяручы за іх па 6%. Здаволены і ўкладчыкі і крэдытары. А з агульных ашчоднасьцяў і даходаў—ствараецца той грамадзкі дабрабыт, які б'е ў вочы навокал, куды вы ні азірніцёся. Досіць сказаць, што мясцовы абыватэль мае ў кнізе ўкладаў на 14 мільёнаў карон.

Гваздом тутэйшых культурных дасягненьняў зьяўляецца Грамадзкі Дом, збудованы на кошт крэдытнага таварыства. Гэта — вялікі ў тры паверхі са шпілем будынак, скромнага, беспратэнцыёзнага фасаду, ня больш.

Першы паверх займае рэстаран з більярдам, сьветлая саля, чыстая з добрымі мэблямі і чыстымі настольнікамі. Прайдзеце скромны вэстыбюль, агульны з рэстарапам і вы ўваходзіце ў дзіўную сваімі разьмерамі салю для гледзячоў, чалавек на 800—1.000, з прыгожымі крэсламі, з галерэяй і шыкарным бакавым сьвятлом. Дзякуючы гэтаму, саля надаецца і для вячэрніх гадзін. Тут могуць ісьці і тэатральныя прадстаўленьні (ёсьць вельмі добры пакой для актораў) і чытаньне, лекцыі, концэрты. Усё прыгожа размалёвана ў мясцовым мараўскім стылі, вокны ўпрыгожаны цэннымі гардынамі мясцовай работы з прыгожымі ўзорамі ажур. Гасьцінны прэзэс таварыства п. Фішэра вядзе вас далей. Перад вамі раскошна абстаўленая гімнастычная саля—„Сакалоўня“ — зрабіць якую каштавала больш як 100.000 чэскіх каронаў. Далей — прыгожыя чыстыя пакоі для штучных дажджоў, ваннаў і паравых лазьняў.

„Усе школьнікі штотыдзень адтрымліваюць дарэмную ванну“ — спакойна комэнтуе п. Фішэра. Мы ўваходзім ува ўнутраны падворачак... відаць бакавы фасад будынку, яшчэ больш навет харошы, як галоўны фасад. Сходкі з амурамі, выгодныя, шырокія ступені вядуць вас далей, у сад і на вялікі спортыўны пляцык. У садзе альтанка для аркестра музыкі, якая зрабіла-б чэсьць моднаму курорту, газоны, кветкі... гожасьць! Вы ўжо даўно абняты ўражаньнямі.

Але п. Фішэра неўмалімы—ён вядзе вас на другі паверх і паказвае опэрацыйную салю таварыскае касы, пачакальню, салю паседжаньняў Рады Касы... ўсё гэта прыгожа абстаўлена дарагімі мэблямі і ўсім сучасным комфортам. Дом каштаваў разам з будаваньнем 6 мільёнаў карон".

Вось да чаго можна дайсьці й на вёсцы пры высокай сельска-гаспадарчай культуры, пры большай народнай прасьвеце і здольнасьці сялян да коопэраваньня і тварэньня грамадзкіх установаў дзеля агульнага дабра жыхароў вёскі.

## Навіны ў тры радкі.

— 31 студня ў некаторых мясцовасьцях Вэнгрыі адчувалася досіць моцнае землятрасеньне.

— Як піша „Правда" за 22.1, ў аднэй толькі Кабардзіна-Балкарскай аўтаномнай акрузе налічваецца 44.770 галодных і без дагляду дзяцей.

— Афіцыяльна устаноўлены граніцы аўтаномнае малдаўскае рэспублікі. Яна абнімае 6.860 квадр. вёрст тэрыторыі з 545.190 жыхарамі.

— Паміж Масквою і Адэсаю пушчана ў рух паветраная камунікацыя. Час пералёту — 10 гадзін.

— 1-га лютага ў паўночнай Ірляндыі шалёнаю бураю скінены з насыпу пасажыр. поезд. 4 асобы забіты і некалькі ранена.

— Выгнаны з Турцыі патрыярх Канстантын выехаў у Грэцыю.

— Саюз прыяцялёў Лігі Народаў у Фінляндыі прапануе выдаць кобэлеўскую прэмію міру быўш. ангельск. прэм'еру Макдональду.

— „Роста“ паведамляе, што на востраве Новая Зямля арганізавалася першая камуністычная ячэйка.

— На Захадзе ССРР. зямля пакрылася пасьля адлігі галалёдам, што можа дрэнна адбіцца на ўраджаі ў гэтым годзе.

— За першую палову мінулага студня лік безработных у Нямеччыне павялічыўся на 47.000 чалавек.

— Паўднёвую часьць Амэр. Злуч. Штатаў заліла паводка. Некаторыя гарады заліты вадою.

— Ангельскі лятун Альлян Кобган праляцеў над Гімалайскімі горамі ў Азіі на вышыні 17 000 футаў.

— У гэтым годзе ў Бэрліне першы сьнег выпаў толькі 28 мінулага студня.

— Пісьмом у рэдакцыю ням газ. „Die Zeit" Керэнскі запярэчыў чуткам аб тым, нібыто ён замерваўся выехаць з Чэхіі ў ССРР.

— „За Свабоду" піша, што радавы ўрад пастанавіў абвясьціць Петраград вольным портам.

# У С.С.Р.Р.

## Адраджэньне гарэлачнага манаполю.

Эмігранцкая расейская прэса, досіць добра паінфармованая аб палажэньні яе бацькаўшчыны, дае часамі досіць цікавыя весткі аб бальшавіцкай гаспадарцы. Гэтак, корэспондэнт „Руля“ паведамляе, што гарэлку ў ССРР забаронена вырабляць і прадаваць. Аднак-жа адсутнасьць яе карэктуецца ня толькі самагоннаю самадзейнасьцю насяленьня, а таксама і вытворчай работай самых радавых інстытуцыяў. Гарэлка — гэта ня тое, што наліўкі, настойкі ды лікеры. Дзяржаўныя органы па вытвару сьпірту, гарэлкі і віна ня могуць выраб. ляць гарэлкі, але затое яны, на точным аснаваньні пастановы ЦИК'у і *Совнаркому* Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік за 3 сьнежня леташняга году, вырабляюць „наліўкі і настойкі з эцілавага (хлебнага) сьпірту“ моцы цяпер ужо да трыццацёх градусаў па Тралесу, а таксама вырабляюць „каньяк, наліўкі, настойкі і лікернае віно з вінаграднага сьпірту“ тае самае трыццацьградуснае моцы. Да гарэлкі гэтае моцы яшчэ не дайшло. Але ў пэўнай меры якасьць можа быць компэнсована колькасьцю.

Дзяржава не абмяжоўваецца толькі вытварам усіх гэтых налівак, настоек і г. д., яна таксама вядзе і продаж іх ды, апрача таго, адтрымлівае вельмі высокі акцыз у разьмеры 14 руб. ад вядра або 1 руб. 14 капеек ад літра, ня лічачы аснаўнога акцызу ў разьмеры 30 кап. ад градуса сьпірту.

У рэзультаце існуе і казённы продаж і выраб *питей*, а пры гэтым пытаньне аб дзяржаўным манаполі саўсім губляе сваю колішнюю вастрату. Даўней дзяржаўны манаполь на тое, ці на сёе быў вынятковым зьявішчам, а прыватная прамысловая і гандлёвая дзейнасьць існавала, як правіла. А цяпер, пры дзяржаўным капіталізьме, прыватная прамысловасьць, галоўным чынам сярэдняга і дробнага разьмеру, зьяўляецца—выняткам, а дзяржаўны манаполь агульным правілам.

— Казённы гандаль гарэлкаю ў 1894 годзе,—рэзонуе корэспондэнт,— і камуністычны дзяржаўны вытвар і гандаль віном у 1924 г. Знаменнае трыццацьгодзьдзе!... Што рабіць! Гісторыя паўтараецца і для тых, хто зьбіраўся зрабіць скачок з царства неабходнасьці проста ў камуністычны рай!

### Напад на камуністых.

Бальшавіцкая газэта „Звезда“ за 28 студня паведамляе, што азброеная банда (беларускія паўстанцы?—*Рэд.*) зрабіла напад на мястэчка Ліхінічы каля Воршы. Напад насіў палітычны характар. Спачатку быў забіты міліцыянт, а пасьля азброеная грамада скіравалася да хаты селькора (сельскі корэспондэнт) Ракушава.

Ракушаў і яго сям'я збройна спраціўляліся. Пасьля стралянiны па хаце, нападаўшыя ўварваліся ў яе і забілі Ракушава, студэнта горацкага рабфаку (рабочы факультэт), павадыра мясцовых камуністых. Затым быў забіты яго бацька і брат-камсамолец. Маці Ракушава цяжка ранена.

З Воршы прыехаў пракурор і прадстаўнікі ГПУ. Адзін з нападаўшых арыштованы.

### Сялянскі тэрор у Гомельшчыне.

Пад канец леташняга году даволі часта здараліся ў **Гомельскай губерніі** выпадкі сялянскага тэрору. Гэтак 20 лістапада ўвечары стрэлам праз вакно забіты прэзэс сельскае рады Прэдка ў сяле Новыя Юркавічы. Роўна цераз месяц, 20 сьнежня, ў вёсцы Новыя Барэцкі забіты прэзэс сельскае рады *Пшенов*. Цераз тры дні забіваюць яго намесьніка Заболотнага. У той самы дзень у вёсцы Крупейцы насьмерць ранены прэзэс камітэту ўзаемападмогі Крамар.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Пайшоў у заклад, напіўся й памёр.** 1-га лютага 49 гадовы Ян Шырвін (вуліца Добрае Рады, 4) паспрачаўся з суседзямі, што вып'е адразу чатыры бутэлькі гарэлкі. Цераз 10 мінют пасьля таго, як далі апошнюю бутэльку, Шырвін ўпаў на падлогу і, ня прыходзячы да прытомнасьці, сканаў.

= **Злавілі афэрыстага.** Паліцыяй затрыманы Альгерд Касьцялкоўскі, які прабаваў прадаць Бэрку Дэрляхтэру (Завальная, 60) замест брылянтаў шклы.

= **Конфіскацыя беларускае газэты.** Уладамі наложана конфіскацыя на № 9 за 30 студня сёл. году газэты „Беларуская Доля". Прычынай для конфіскацыі паслужылі артыкулы: „Чужая школа без карысьці" і „Найвялікшая крыўда", як маючыя ў сабе праступкі паводле 263 арт. Карн. Кодэксу.

= **„Паводлуг патрэбы і магчымасьці“.** „Dziennik Wileński" піша, што Рада міністраў выдала апошнім часам распараджэньне, якім выканаўчыя правілы да языковага закону датычна паштова-тэлеграфных патрэбаў, зьменены ў тым сэнсе, што паразумяваньне вураднікаў з публікаю пры ваконцы мае адбывацца ў мове няпольскай, прадбачанай у законе, „паводлуг патрэбы і магчымасьці".

= **Спыненьне ў чыннасьці.** 2-га лютага спынены ў чыннасьці кіраўнік чугуначнага камісарыяту падкамісар Малахоўскі, якому закідаецца рад службовых надужыцьцяў.

= **Вакол надужыцьцяў у паліцыі.** У зьвязку з правядзеньнем расьследаваньня справы надужыцьцяў у віленскай паліцыі, ўночы з 31 студня на 1 лют. загадам пракурора пасаджаны ў вастрог кіраўнік Сьледчае Экспозытуры на м. Вільню надкамісар Анатоль Паўловіч.

= **Ахвяра на Беларускі прытулак.** Бел. Грамадзянскае Сабраньне ахвяравала прытулку 500 кніжак „Тыпы Палесься", 500 кн. „Беларускі тэатр“ і ўсе кніжкі, якія былі даны ў Кнігарню для прадажы,—„Шчасьлівы муж“ і „Птушка шчасьця", таксама 100 зал. грашыма. Усяго на 1500 злотых.

# УСЯЧЫНА.

### З падслуханых гутарак.

Сайшліся тры прыяцялі...

*Першы:* Ці ня ведаеце, паны мае дарагія, хто гэта так сіліцца на вастрату ў „Авадні“?...

*Другі:* Гэта наконта зьезду вучыцялёў?...

*Першы:* Ага... ага... наконта зьезду...

*Другі:* Будзь-ка я гэтым аўторам...

*Першы* (перабіваючы). Ну... будзька ты... дык што?!...

*Трэці:* Што гэта вы, паночкі, ўсе будзь-ка я, ды будзь-ка ты... Кіньце гэтую „будзь-ку" — як той казаў — хоць і „стэнаграфічна", але „ерундыстычна"—і ні востра і неразумна...

**Куля.**

## Паштовая скрынка.

**Целяк**—патрэбныя №№ дасылаем.

**Саковіч** Сьцяп., **Сьвіда** Альгерд—грошы адтр.

**Рудко-Цыган.** Грошы і пісьмы Вашыя адтрымалі. Газэты высылаем Вам без перарыву, калі не даходзяць, дык спраўку зрабеце на пошце.

**Ігн. Андзілеўка, А. Янчуковіч, С. Артаеў, Нік. Цытовіч, Аляк. Мятла, Яз. Невярковіч, К. Янэль, Сярг. Калейнік** — на Вашы просьбы газэту высылаем.



Рэдактар - Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.